Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 11 да 12 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: за 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1 мес.—75 гр.

Год 1. Вільня, 31 сьнежня 1929 г. №. 4.

# З НОВЫМ ГОДАМ!

## З Новым Годам!

Стары гэта звычай—абменівацца пажаданьнямі ў дзень Новага Году. І мы, выпускаючы гэты нумар у апошні дзень Старога Году, будзем вернымі гэтаму звычаю.

Чаго-ж пажадаем мы нашаму народу, нашай вялікай сярмяжнай сямы, з якой кроўна ідэйна зьвязана і ўся беларуская інтэлігенцыя?

У мамэнт адыходу ў вечнасьць Старога Году сумны від мае нашае грамадзкае жыцьцё. Зусім такі, які бывае пасьля нейкага страшнага пагрому. І калі, звонку гледзячы, можа здавацца чужому чалавеку, што ў нас „усё, як у людзей": і паслы ў Сойме засядаюць, і вось розныя культурныя ўстановы існуюць,—дык мы сябе не ашукваем: усё гэта—адно толькі „фірмы", толькі „вывескі", за гучнымі назовамі якіх у большасьці выпадкаў няма ніякага зьместу...

Сяньня маем адвагу сказаць гэта публічна. Цяжкі крызіс перажыў беларускі рух у Заходняй Беларусі ад часу разгрому „Грамады". Многа сіл змарнавалася. Шмат устаноў замерла, ці мо' заснула. І цэлыя галіны беларускага жыцьця аказаліся зусім неабслужанымі, або абслужанымі блага й недастатачна.

Але—„мінае зьнемажэньня пара!" Народ наш ад часу выбуху сусьветнае вайны і глыбокіх устрасеньняў, што раскатурхалі нашае жыцьцё, нязвычайна *вырас духова*. Даволі параўнаваць тое, што было ў даваенныя і дарэвалюцыйныя часы, з тым, што прадстаўляе наша вёска і нашае места сягоньня,—і сэрца расьце ад пачуцьця тэй *магутнай сілы духовай*, якую выяўляе сягоньня наш народ.

Хай цяжка нам сягоньня; хай цешацца нашы ворагі з таго ўнутранага разладу, які ўнясла чужацкая рука ў жыцьцё нашага грамадзянства ў Заходняй Беларусі; хай урэшце трымфуе—да часу!—маскоўскі нацыяналізм, які разьбівае вялікі культурны гмах беларускі ў БСРР,—але-ж усе гэтыя нягоды толькі *дачаснае зьявішча*. Збуджаныя з векавечнага сну беларускія масы ўжо не заснуць нанова. Выяўленая імі творчая сіла залечыць нанесеныя ім раны і будзе ўсьцяж і ўсьцяж тварыць новыя культурныя цэннасьці і—*будаваць Беларусь*.

Мы бачым ужо праявы гэтага. Да нас даходзяць галасы з нашае вёскі—здаровы водрух цьвярозага розуму працоўных масаў на спробы варожых нам сілаў здушыць беларускі вызвольна-адраджэнскі рух, скрывіць нашы нацыянальныя і соцыяльныя ідэалы. Народ ізноў пачаў варушыцца і кліча сваю інтэлігенцыю да творчае працы, да арганізоўваньня жывых сілаў ўсёй і места.

Няхай жа ў гэтым Новым Годзе, што заўтра пачынаецца, нанова ўзьнімецца магутная хваля народнага руху—у імя нашага *нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня*! Няхай закіпіць ізноў наша творчая праца на ўсіх абшарах Зямлі Беларускае наабапал гранічныя мяжы, што разрэзала жывое цела нашае Бацькаўшчыны. І няхай пачуюць на ўсім сьвеце—свае і чужыя, што *жыве Беларусь*, што ўрэшце *збудзіўся гаспадар яе*, што

Беларускую рукою
Сьветлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Бацькаўшчыне мілай!

Гэткія словы глыбокае веры й надзеі шлем сяньня ўсім нашым чытачом, як навагодняе віншаваньне.

## Больш увагі гаспадарцы.

У барацьбе беларусаў за сваю культурна-нацыянальную й палітычную незалежнасьць часта недацэніваецца момант эканамічны. Аднак, гаспадарчая самастойнасьць ёсьць падкладам хутчэйшага асягненьня й палітычнае незалежнасьці. Гэта стане яскрым і зразумелым для кожнага, хто бліжэй падыйдзе й прыглядзіцца да нашага адраджэнскага руху. Дый, запраўды, кожная праява паступовасьці, прагрэсу ў беларускай справе ў розных галінах у першую чаргу ўзалежнена ад матэр'яльных абставінаў.

Мы жывем і працуем у часы самага грубога матэр'ялізму, які пасьля вайны стаўся першапрычынай усіх пачынаньняў. Дзеля гэтага кожнае гаспадарства, кожная краіна імкнецца да поўнага гаспадарчага асамастойненьня, што ёсьць парукай таксама й культурнага дабрабыту. Буйны ўзрост прамысловасьці ў Заходняй Эўропе, Злучаных Амэрыканскіх Штатах ды іншых краінах даў магчымасьць уцягнуць усе вытворчыя сілы розных народаў на сусьветны рынак. Уцягнута сюды таксама й Беларусь, як аграрная, альбо інакш кажучы сельска-гаспадарчая старонка. Але ў той час, як іншыя краіны, дзякуючы сваёй палітычнай незалежнасьці, здольны рэгуляваць прадукты ўвозу й вывазу дзеля ўзбагачэньня свайго народу, мы, беларусы, пастаўлены ў варункі надзвычайна цяжкія, у варункі выключна старонкі эксплёатаванай (выкарыстоўванай). Галоўная прычына гэтага—ізноў-жа палітычны падзел Беларусі, як суцэльнай этнографічнай краіны, якая мае сваю асаблівую геаграфічна-эканамічную індывідуальнасьць. Потым ідзе цэлы рад іншых прычынаў, як напр.: нашая культурная адсталасьць, гаспадарчы прымітывізм, які памалу ўжо адходзіць у забыцьцё, а галоўнае — выцякаючая адгэтуль беднасьць.

Беларусь цяпер па частках уцягнута таксама ў гаспадарчы абег Польшчы, ССРР і Латвіі і ўва ўсіх гэтых гаспадарствах зьяўляецца як-бы бясплатным прыдаткам—колёніяй. Эксплёатацыя ня толькі натуральных багацьцяў краю (лясоў у першую чаргу), але й фізычнай сілы беларусоў, асадніцтва чужынцаў на беларускіх землях ды шмат іншых фактаў гавораць самі за сябе. У сваім паходзе галоўным чынам ангельскі й амэрыканскі капітал праз узалежненыя ад яго гаспадарствы, якім належыць Беларусь, хоча здушыць нашыя праявы істнаваньня. Праўда, гэта ня робіцца проста, але ўкосным спосабам.

У абарону-ж нам, беларусам, трэба паставіць пляновую працу ўзмацаваньня эканамічнага. Праграмай на першы пачатак павіны служыць лёзунг: „Беларускія землі й багацьці — толькі беларускаму народу". Другі лёзунг, які між іншым Чэхі выставілі пад час свайго адраджэньня й верныя яму аж дагэтуль: „Праца й ашчаднасьць!"; а ўрэшце: „Рацыянальная гаспадарка!".

Тлумачэньняў да гэтага шмат ня прыходзіцца прыводзіць: яны самыя сабой вынікаюць. Больш трэба самадзейнасьці й ініцыятывы, больш увагі коопэратывам, банкам, агранамічнай літэратуры, якая яшчэ можа задаволіць нашыя толькі элемэнтарныя запатрабаваньні,—тады будзе ў нас больш магчымасьцяў да хутчэйшага асягненьня поўнае й усебаковае эканамічнае незалежнасьці. Грошы дадуць нам магчымасьць будаваць Беларусь так, як вымагае ХХ сталецьце, а не „на касьцёх бедных беларускіх самаахвярнікаў—ідэалістаў".

* * *

Закід нашых непрыцеляў аб беларускай гаспадарчай няздольнасьці (праўда, часта нічым ня ўгрунтаваны, зусім беспадстаўны), цяжка ў гэты мамэнт разьбіць з прычыны нястачы поўных і нетэндэнцыйных статыстычных крыніцаў. Але можна і з агульнай нашай прыродна-геаграфічнай кон'юнктуры зрабіць поўныя вывады.

Беларускі край, абыймаючы 326 тысячаў кв. км., мае нязвычайнае множства відаў сельска-гаспадарчае й прамысловае вытворчасьці. Праўда, тут ня прыходзіцца гаварыць аб колькасьці й якасьці гэтае вытворчасьці нашага краю, але тады трэба ўзяць пад увагу нашыя асаблівыя геаграфічныя й палітычныя варункі. Будучы арэнай змаганьня й крыжаваньня двух адвечна варожых сілаў і ўсходу й захаду ў культурным разуменьні, Беларусь заняла важнае фізычна-географічна пераходнае мейсца. У гэтым крыецца шмат бачынак дадатніх, але разам з гэтым і цяжкіх да выпаўненьня беларускім народам. Беларуская сплецістая водная сетка з гістарычным „вялікім водным шляхам", беларуская лясіста-балоцістая асаблівасьць, знаная ўсяму сьвету ў пастаці беларускага Палесься й пушчаў з вельмі багатай фаўнай (зьвярынай) ды шмат іншых вызначала Беларусь у мінуўшчыне й прарочыць ёй вялікую эканамічную здольнасьць. А гэта тым балей, што народ беларускі абуджаецца да новага жыцьця. Цяпер, калі Зах. Эўропа задыхаецца ў сваёй фабрычна—заводзкай прамысловасьці, калі перанасяленьне змушае да барацьбы за кожную пядзь зямлі, аб'яўляючы „drang nach Osten", — мы яшчэ на доўгі час забясьпечаны ад гэтага поўнага перанасяленьня. Даволі сабе ўспоміць, што ў нас на Беларусі ў сярэднім прыпадае толькі 36 асоб на адзін кв. км. — у той час, як зямлю паводле ўжыткоўнасьці можна падзяліць: 40% — ральля, 20%—сенажаці, 30%—лясы, 8%—няўжыткі, 2%—іншае. Бяда толькі, што падзел зямлі ў нас між насельніцтвам—абсалютна ненармальны.

Беларускае сялянства, якое складае 90% усяго жыхарства на Беларусі, мае вялікую працаздольнасьць; дзеля гэтага трэба верыць, што неўзабаве, перамогшы ўсю сваю дасюляшнюю консэрватыўнасьць і гаспадарчы прымітывізм (а таксама й духовы),—яно здолае выйсьці на шлях шырокага будаўніцтва. Трэба толькі, каб пачалася ўрэшце грунтоўная перастройка нашых зямельных адносінаў.

Трэба думаць, што старая сыстэма гаспадаркі (трохпалёўка, лядавая ды інш.) хутка адойдзе ў забыцьцё. Агранамічная літэратура мусіць паказаць і зьніштожыць усе тыя злыбяды, якія ўкараніліся ў нашым краі; мусіць навучыць таксама змагацца з эксплёатацыяй чужынцамі, асабліва пры закупцы вядомага ўсяму сьвету таннасьцю сваей беларускага лёну, лесу й скаціны; мусіць прывучыць прыглядацца да курсу на міжнародным рынку. Урэшце зьвярнуць трэба ўвагу на забясьпечаньне хатняга вырабу, як напр.: ганчарства, ткацкіх вырабаў ды інш., разьвіцьцё рыбалоўства, а разам з тым на разьвіцьцё ўсіх відаў беларускае прамысловасьці й гандлю. Бяз гэтага мы ніколі ня зможам быць заможным народам, а будзем у сваім краі батракамі. А галоўнае, што ў першую чаргу важна, трэба ўпарта працаваць праз беларускую коопэрацыю.

М. І.

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

канчальна прыняць дакінуты Нямеччыне новы плян адшкадаваньняў.

Ужо першая канфэрэнцыя ў Гаазе, заняўшая амаль не цалком увесь жнівень, паказала, якая гэта цяжкая задача. Бо-ж — замест таго, каб згодна прыняць апрацаваны „незалежнымі ад урадаў (?) фінансавымі фахоўцамі новы плян адшкадаваньняў (так званы „плян Юнга“), сабраўшыяся ў Гаазе палітычныя паўнамоцнікі галоўных заінтэрэсаваных 6-х дзяржаваў—на сам перш амаль не перагрызьліся ды не перадзерліся за падзел паміж сабой гэтых зьдзіраных усьцяж з нямецкага народу ваенных адшкадаваньняў. Як ведама, асабліва „высунуўся“ тады сваей нячуванай працавітасьцяй англійскі міністар скарбу — Сноўдэн. Дайшло да таго, што неаднойчы ўся канфэрэнцыя вісела на валаску, і — каб адратаваць паразуменьне дзяржаваў-пераможніц паміж сабой, апошнія зрабілі новы націск на нямецкую дэлегацыю — налажылі на нямецкі народ новыя цяжары, перад якімі спыніліся нават „незалежныя ад ураду“, а таму, відаць, і больш разумныя і сумленныя фінансавыя спэцыялісты, дасьледаваўшыя фінансовыя здольнасьці Нямеччыны.

У Нямеччыне пачаўся вельмі сільны рух — проці „пляну Юнга“, на чале якога сталі з рожных мяркаваньняў—тры рожныя палітычныя партыі: нямецкія нацыяналісты, „народныя сацыялісты“ і камуністы. А, як ведама, у апошні час, адкрыта далучыўся да гэтага пратэсту проці „пляну Юнга“ і вельмі ўплывовы ў Нямеччыне і за яе рубяжамі — старшыня нямецкага дзяржаўнага банку др. Шахт.

Гэты др. Шахт аднак-жа ставіць справу інакш —больш разумна і памяркоўна. Як галава нямецкай дэлегацыі на камісіі фінансавых экспэртаў у Парыжу, што апрацоўвала „плян Юнга“, ён — у спэцыяльным мэмарыяле матываваў дакладна свой пратэст толькі **проці тых бязладных і крыўдных для Нямэччыны зьменаў** у „пляне Юнга“, зробленых „першай канфарэнцыяй ў Гаазе“, ня гледзячы на што камісія экспэртаў прызнала яго **нятыкальнай арганічнай цэласьцю.**

Чыста палітычная барацьба трох названых партыяў проці ўсяго „пляну Юнга“ правалілася з трэскам; але рэчавая, фінансава абаснаваная барацьба д-ра Шахта проці **пагоршаньня пляну Юнга на першай канфэрэнцыі** ў Гаазе мае пакуль што паважны пасьпех у Нямеччыне і пераможа й на „другой канфэрэнцыі ў Гаазе“.

Запраўды-ж, кампанія Гугэнберга проці пляну Юнга скончылася поўным крахам: плебісцыт, адбыўшыся 22 сьнежна, даў замест вымаганых 20 мільёнаў галасоў—толькі 5 мільёнаў з нечым. Але кампанія д-ра Шахта ўжо завяршылася такой нячуванай перамогай яго ў краі, як звальненьне сацыялістычнага міністра фінансаў Гільфэрдынга і — назначэньнем самога д-ра Шахта старшынёй нямецкай дэлегацыі на „другую канфэрэнцыю ў Гаазэ“, якая мае канчальна прыняць „плян Юнга“.

Гэта, ведама-ж, выклікае вялікую трывогу ў Францыі, а таксама ў Англіі, якія паважна баяцца „пляну Юнга“. Насколькі ў Францыі перастрашаны перамогай Шахта, ды насколькі наагул вырасла за апошні час міжнародная сіла Нямеччыны, відаць з таго, што — замест страшыць Нямеччыну ўтрыманьнем акупацыі ці завастрэньнем іншых рэпрэсыяў, — Францыя выслала ў Бэрлін паўсотні сваіх выдатнейшых палітыкаў—**з правых нацыяналістычных колаў** — дзеля перагавораў з нямецкімі правымі кругамі—у мэтах паразуменьня.

Французская прэса наагул вельмі скупа інфармуе аб тых гутарках, якія вядуць з нямецкімі таварышамі тыя францускія нацыяналісты, якія паехалі „на паклон“ у Бэрлін. Але з вестак у нямецкай і французскай прэсе, ясна што гутаркі аб паразуменьні захапілі вельмі шырокі абшар ня толькі фінансавых, але і палітычных справаў. Як паведаміла прэса, гутаркі ішлі нават аб **грунтоўным пераглядзе ўсходніх граніцаў** Нямеччыны — коштам Польшчы... А ў рэзалюцыі гэтай нябывалай яшчэ дагэтуль **канфэрэнцыі францускіх эндэкаў з нямецкімі** ў Бэрліне сказана нават, што будова брацтва народаў павінна распачацца на фундамэнце француска-нямецкай прыязьні“!..

„З пункту гледжаньня польскага,— піша парыжскі карэспандэнт „Kur. War.“,— гэтыя гутаркі ў Бэрліне зьяўляюцца скандалам і павінны быць асуджаны аднамысна польскай публічнай апініяй“.

13.I. 1930 г. мае распачацца чарговая **сэсія рады лігі нацыяў**, якая таксама зьмяшчае на сваей павестцы рад вельмі цяжкіх справаў, як напрыклад справа крывавых падзеяў у Палестыне—пад прыхільным англійскім мандатам, ня кажучы ўжо аб справах меншасьцёвых.

21 таго-ж студзеня распачнецца ў Лёндане яшчэ больш цяжкая і важная па сваім задачам канфэрэнцыя валікіх морскіх дзяржаваў, ахопліваючая ўжо літэральна справы сусьветнай палітыкі пад скромным назовам **канфэрэнцыі ў справе абмяжаваньня марскіх збраеньняў.** Гэтая канфэрэнцыя 5 камандзіраў сусьветнага жыцьця—на чале з Амэрыкай і Англіяй—будзе фактычна вырашаць справы панаваньня на акіянах, падзелу „сфэраў уплываў“ кожнай з марскіх дзяржаваў на ўсей зямной кулі і г. д.

Да гэтай важнейшай канфэрэнцыі мы, зразумела, яшчэ вернемся. Цяпер адзначаем толькі, што першы месяц новага году адразу распачнецца працай над найважнейшымі і найтруднейшымі праблемамі сусьветнае палітыкі.

### Партугалія.

У адным з партугальскіх местаў выбухнула чарговая „вайсковая рэвалюцыя“, без якіх, як ведама, не абыходзіцца ніводная значнейшая спорная справа ў гэтым клясычным краі „рэвалюцыйных маланак“, якія аднак-жа заўсёды здоляюць палажыць трупам пару — другую ахвяраў, а часам—дык і пару дзесяткаў.

Так было і цяпер. Частка артылерыйскае брыгады, нездаволенае адмовай падвышэньня пэнсіі, збунтавалася, захапіла падместавы форт і пачала астрэліваць з гарматаў места. Выкліканыя з суседніх местаў падмогі зьліквідавалі рэвалюцыю,—аднак толькі пасьля запраўднага бою, які цягнуўся некалькі гадзін.

## Кароткія навіны.

20-а сьнежня кракаўскія астраномы выкрылі новую камэту. Камэта гэтая зьяўляецца сёмай па вялічыні й знаходзіцца ў абводзе зорак Гэркулес.

На Камчатцы над ракою Пал упаў вялікі мэтэор і глыбока зарыўся ў зямлю. Вялікі гук падчас паду напалохаў страшэнна тамтэйшае жыхарства.

Паводле справаздачы Міністэрства Справядлівасьці ў Польшчы нарахоўваецца 333 вязьніцы. Па гэтых турмах у 1928 годзе сядзела 29 тысяч 796 вязьняў, з іх 816 нялетніх.

У нямецкім горадзе Мюнхэне надойчы адбылася проціпольская дэманстрацыя з клічам аб звароце гданскага карыдору. Прамоўцы, якія выказваліся на мітынгу, падкрэсьлівалі гаспадарчы заняпад Усходніх Прусаў у сувязі з утратай гданскага карыдору.

У апошні час пачынае ізноў выбухаць адзін з найбольш дзейных вульканаў Кракатаў, недалёка ад вострава Явы ў згрупаваньні Маляйскага архіпэлягу. Гожа прыпомніць, што вулькан Кракатаў, які лічыўся даўгі час пагаслым, у 1883 годзе выбухнуў так, што выбух гэты было чуваць аж у Эўропе, пры чым загінула некалькі дзесяткаў тысячаў людзёў. Цяпер людзі таксама ў вялікай трывозе ўцякаюць з вострава.

## Новы Год.

**(Лукішская новэльля).**

Гэта быў другі Новы Год, які я спатыкаў на „Лукішках“. У камэры было 2 сьвечкі, якія мы (я й мой сябра па камэры) разламалі на некалькі кавалачкаў, каб з ільлюмінацыяй спатыкаць 1929 год. Мы пастанавілі сядзець да 12 гадзіны й не распранаючыся ляглі на сяньнікі. Турма замірала, цішэла. Апэль ужо даўно прайшоў. У нашых думках рысаваліся ўспаміны, лятуценьні й розныя пляны. Мой сябра па камэры спатыкаў ужо пяты „Новы Год“ у вастрозе. Я сустракаў 1928 год з верай у лепшае заўтра нашага народу. Успаміналі ўсё. Мімаволі думкі перайшлі на вастрог, на нашае шэрае жыцьцё. Мы стваралі розныя праекты, як-бы можна было спаткаць Новы Год і кожны праект быў поўны нашага напружана-ўзрушанага настрою.

— Вось, каб а 12 гадзіне ўсе запяялі „Ад веку мы спалі“. Ото-ж была-б штука! Выабражаем, як прыбяжыць сержант і задышэным голасам пачне натацыю. Або... ўзьняць буру званкоў і крычаць: „Хай жыве Новы Год“... Доўга мы гутарылі гэтак. Гадзіньнік прабіў 9.

Неяк зрабілася сумна й не захацелася ні спатыкаць Новы Год, ні думаць, а забыцца аб усім гэтым. Я ведаў, што нічога ня будзе, што вязьні будуць спаць моцным сном у тую 12-ую гадзіну, калі ў цёмныя, вастрожныя шыбіны палахліва пастукае Новы Год.

— Ведаеш што?—сказаў я,—давай, брат, цяпер спаткаем Новы Год і будзем спаць.

Мы запалілі сьвечкі, разставіўшы іх на стале, паліцах, вакне й парашцы. Мой сябра ўзьняўся лёгкім гімнастычным рухам пад віньцілятар і голасна крыкнуў:

— З Новым Годам!

Па ўсім карыдорам праняслося прыглушанае рэха й зараз-жа мы пачулі, як ля цэляў забегалі дазорцы.

Мы пасланіся й заснулі з нейкімі таёмнымі думкамі, трывожнымі згадкамі.

На двары шумела мяцеліца, навяваючы лёгкі сум і мучымыя думкі аб нечым сьветлым, сонечным...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мяне разбудзіў сябра. Яму было дрэнна. Я паглядзеў галаву, пульс. Аказалася, у яго была сільная гарачка. Зараз-жа выклікалі фэльчара. Зьявіўся сержант і з усьмешкай прывітаў нас з Новым Годам. Праз поўгадзіны зьявіўся й фэльчэр. Ен таксама ўсьміхнуўся й прывітаў з Новым Годам. Гадзіньнік выбіў тры. Тры гадзіны Новага Году. Халодныя, дразьнячыя змрокі глядзелі ў вакно.

Аказалася ў майго сябры была грыпа. Так спаткалі мы Новы Год, які й мяне не абмінуў, бо праз тры дні й я ляжаў у ложку, аслаблены праклятай хваробай.

1929 г.
„Лукішкі“.

**Х. І.**

## Гаспадарчыя труднасьці.

У апошні час Польшча перажывае паважныя труднасьці ў гаспадарчым жыцьці. Апублікаваныя ў мінулым тыдні афіцыяльныя дакумэнты кажуць аб небясьпечным гаспадарчым стане краю вельмі выразнай, у цыфрова абаснаванай мове.

Праўда, паданы ў прэсе апошні торговы баланс Польшчы (за лістапад г. г.) паказывае перавагу вывазу над увозам у суме 12 міл. 687 тыс. злотых (за кастрычнік гэтая падвышка была — 2.180,000 зл.). Дык здавалася-б, што лічба гэтая— вельмі пацяшаючая. Але, калі прыгледзімся да яе складу бліжэй, дык убачым нешта іншае. Перад усім узрост дадатняга балянсу спароджаны **не павялічэньнем вывазу, але зьмяншэньнем прывозу.** Ды то-ж яшчэ ня было-б страшна, калі-б ня тое, што **зьменшыўся прывоз якраз найбольш патрэбных для краёвай прамысловасьці сырцоў,** а ў першую чаргу—бавоўны і жалеза.

Як сьведчыць справаздача Банку Краёвай Гаспадаркі, за той-жа лістапад, „наладжаньне мэталюргічнай прамысловасьці пагоршылася“, у зьвязку з тым і стаіць зьмяншэньне ўвозу жалезнага сырцу на некалькі мільёнаў. Яшчэ больш балючым для найгалаўнейшай галіны польскай прамысловасьці — ткацтва — зьяўляецца зьмяншэньне аж на 5,2 міл. зл. прывозу бавоўны, якой, як ведама, Польшча сама не прадукуе.

Тая-ж справаздача Банку Краёвай Гаспадаркі сьцьвярджае пагоршаньне стану ткацкай прамысловасьці „якое пераходзіць межы звычайнага сэзонавага спадку“. — Зьменшыўся ў лістападзе значна і выказ такога важнага артыкулу польскага экспорту, як скаціна, сьвіньні і дрэва.

Як бачым, абодва дакумэнты—лічбы гандлёвага балянсу і справаздача Банку Краёвай Гасп., дапаўняючы і высьвятляючы адзін аднаго, згодна кажуць аб паніжэньні гаспадарчага жыцьця ў краі. Ня менш красамоўна пацьвярджае факт і балянс Польскага Банку за першыя 10 дзён сьнежня. Балянс гэты сьцьвярджае зьмяншэньне —на 80 мільёнаў! — лічбы курсуючых у краі крэдытавых білетаў Польскага Банку, ці прасьцей— папяровых грошаў. Трэба прызнаць гэты факт вельмі трывожным: перад сьвятамі, калі ідзе такі попыт на гатоўку, калі гандаль пераважна працуе асабліва шырока і шпарка, у нас — замест павялічэньня грашовага абегу ў краі — робіцца (пэўне-ж з ведамай канечнасьці) — яго зьмяншэньне.

За ўсімі гэтымі лічбамі і фактамі стаіць агульнае зьявішча: зьбядненьне шырокіх масаў спажыўцоў у краі, аслабеньне іх набыўчай сілы, выкліканае агульным заняпадам гаспадарчага жыцьця ў краі, у свой чарод выклікаўшым павялічэньне кадраў безработных.

Статыстыка безрабоцьця налічывае—на 14-XII — 154.370 безработных, прычым за тыдзень 7—14 сьнежня лічба апошніх узрасла на 16.000! Няма нічога дзіўнага, што такі гаспадарчы стан краю, такое зьбядненьне аго насяленьня адбіліся найфатальней на паступленьнях у касы дзяржаўнага скарбу. Дзяржаўныя манаполіі і падатковыя ўстановы паказываюць за лістапад уплывы меншыя, раўнуючы з кастрычнікам, на 7,2 міл.

Такім чынам, запраўды-ж апошні месяц — лістапад можа лічыцца выняткова цяжкім месяцам, як для краю і яго насяленьня, так і для дзяржаўнага скарбу. І—хіба-ж можна цьвердзіць, што на гэты цяжкі гаспадарчы крызіс у Польшчы ня меў ніякага ўплыву зацяжны палітычны крызіс, усьцяж перажываны краем і дагэтуль яшчэ незьліквідаваны.

Варшава.

**К. Кандратовіч.**

## Хроніка.

+ **Справа арганізацыі поэтаў, літэратараў і журналістаў.** Лічба беларускіх поэтаў, літэратаў і журналістаў у Заходняй Беларусі—даволі значная, і з кожным годам выяўляюцца ўсё новыя і новыя сілы. Аднак, ня ўсе яны знаходзяцца ў адпаведных дзеля разьвіцьця іх творчае здольнасьці варунках. Шмат хто, жывучы на вёсцы, ня мае каму паказаць сваіх твораў, ня мае з кім парадзіцца, пазнаць свае хібы й нястачы. Дый тыя, што жывуць у Вільні,—расьцярушаны, часта й зусім не сустракаюцца між сабой, нават не заўсёды ведаюць адзін аднаго.

Патрэба цеснага аб'яднаньня ўсіх гэтых працаўнікоў пяра—дзеля супольнага абгаварываньня цікавячых усіх пытаньняў і ўзаемнае крытычнае ацэнкі творчасьці—вычуваецца даўно, і ня раз ужо рабіліся спробы стварыць адпаведную арганізацыю. На жаль, рэальных вынікаў спробы гэтыя ня далі. Цяпер тыя літэратурныя і публіцыстычныя сілы, якія гуртуюцца каля нашае рэдакцыі, робяць яшчэ адну такую спробу і заклікаюць усіх, хто хацеў-бы ўвайсьці ў склад праектаванае арганізацыі, прыслаць паведамленьне на адрас **рэдакцыі „Наперад“ (Вільня, Віленская 8—3)—для кіраўніка літэратурнага аддзелу.** Пасьля высьвятленьня лічбы актыўных працаўнікоў на ніве літэратуры і публіцыстыкі будуць зроблены патрэбныя крокі дзеля легалізацыі новае арганізацыі,

+ **З Беларускага Дабрадзейнага Т-ва.** 27-га сьнежня адбыўся агульны гадавы сход Бел. Дабр. Т-ва.

Старшынёю сходу быў абраны А. Луцкевіч, а сэкрэтарам Я. Шнаркевіч.

Справаздачу аб агульнай дзейнасьці Т-ва за мінулы год дала А. Сакалова-Лекант—старшыня Т-ва. Фінансавая справаздача з адчытаньнем пратаколу рэвізыйнае камісіі была дадзена сябрам рэв. кам. Р. Астроўскім.

Па выслуханьні справаздачаў, агульны сход, даўшы абсолюторыюм прэзыдыюму Т-ва, выняс адначасна яму гарачую падзяку за працу ў нязвычайна цяжкіх варунках.

Пры разважаньні над плянам працы на будучыню гр. Р. Астроўскі, апіраючыся на § 2 і § 3 Статуту Т-ва, запрапанаваў пашырыць дзейнасьць Т-ва на дарослых, пазбаўленых магчымасьці зарабляць на падтрыманьне сваіх сем'яў, утвараючы адпаведны патранат.

Па выслуханьні дакладу гр. Астроўскага сход аднагалосна пастанавіў: утварыць патронат і даручыць новаму Ураду Т-ва заняцца яго арганізацыяй.

Пасьля гэтага адбыліся выбары новага прэзыдыюму Т-ва і Рэвізыйнае Камісіі. У склад прэзыдыюму ўвайшлі гр. гр. А. Сакалова-Лекант, А. Астроўская, А. Быхаўцова, А. Коўш і М. Сіняўскі; заступнікамі—А. Міхалевіч і Я. Шнаркевіч. У склад Рэвізыйнае Камісіі ўвайшлі: А. Трэпка, Н. Лукашэвічыха і С. Сарока,

+ **Госьць з Літвы.** З прычыны цяжкае хваробы маткі сваей, якая жыве ў Вільні, прыехаў сюды на некалькі дзён грам. Кляўдыюш Душэўскі з Коўны, ведамы беларускі дзеяч.

Грам. Душэўскі належыць да тых нячысьленых беларусаў, якія яшчэ лічаць магчымым працаваць у Літве. На жаль, палітыка віленскіх літоўскіх дзеячоў у адносінах да беларусаў выклікае вялікі сумліў у магчымасьці шчырага беларуска-літоўскага супрацоўніцтва хаця патрэба такога супрацоўніцтва дыктуецца як гісторыяй беларуска-літоўскага дзяржаўнага сужыцьця ў мінулым так і—практычнымі заданьнямі палітыкі абодвух народаў на сягоньня й на заўтрашні дзень.

+ **Забастоўка жыдоўскіх гандлёвых працаўнікоў.** Ужо два тыдні канчаюцца, як у Вільні пачалася забастоўка жыдоўскіх гандлёвых працаўнікоў (прыкашчыкаў). Забастоўка ўзьнялася на груньце звальненьня Саюзам Жыдоўскіх Купцоў аднаго з яго служачых. Зволнены працаўнік, лічучы сябе пакрыўджаным, зьвярнуўся да прафэсыянальнага Саюзу Прыкашчыкаў з жалабай на Саюз Купцоў. Прафсаюз патрэбаваў ад купцоў прысылкі ўсіх матэрыялаў да гэтае справы і выясьненьня яе праз паўнамочніка купцоў. Саюз Купцоў адмовіўся споўніць гэта і заявіў, што разглядаць гэту справу ён можа толькі перад арбітражнай камісіяй, зложанай з прадстаўнікоў абедзьвюх арганізацыяў. Прафсаюз тады зьняў з работы працаўнікоў Саюзу Купцоў, а як гэта не памагло, пачаў зьнімаць паступова працаўнікоў у крамах паасобных бранжаў. Ад мінулага аўторка забастоўка прыняла характар агульнае забастоўкі ўсіх жыдоўскіх гандлёвых працаўнікоў.

Аднак, з прычыны таго, што далёка ня ўсе гандлёвыя працаўнікі аб'яднаны ў Прафсаюзе, забастоўка праводзіцца ня так аднадушна, як павінна быць у гэткіх выпадках. Пры зьніманьні з работы неарганізованых прыкашчыкаў здараліся баталіі, пры чым адзін з агітатараў на карысьць забастоўкі быў паважна ранены нажом.

Пасрэдніцтва інспэктара працы давяло да таго, што між ваюючымі старонамі распачаліся беспасярэднія перагаворы аб уладжаньні канфлікту. Перагаворы гэтыя, аднак, сарваліся і забастоўка зацягіваецца на даўжэйшы час.

Варшаўскія таварышы прыслалі віленскаму Прафсаюзу пісьмо, у якім абяцуюць сваё маральнае і матэрыяльнае падтрыманьне забастоўшчыкам.

Слабое месца забастоўкі—тое, што яна мае выключна жыдоўскі нацыянальны характар. Дзеля гэтага ў шырокіх колах насяленьня забастоўка блізу не адчуваецца: хрысьціянскія гандлёўцы працуюць нармальна і хрысьціянскія крамы задавольваюць патрэбы кліентаў у тых галінах, у якіх жыдоўскі гандаль часткова прыпыніўся.

## Палёгкі для земляробаў Віленскага Ваяв.

Прымаючы пад увагу вынікі неўраджаю 1928 году, урад прымусовага ўзаемнага Страхаваньня пастанавіў прызнаць для земляробаў Віленскага вая-ва наступныя палёгкі:

1) Страховыя складкі на абшары ўсяго ваявод. будуць прыймацца без штрафаў за пратэрмінаваньне.

2) На абшары Дзісьненскага і Браслаўскага паветаў залеглая страхоўка з раестру 1929 г. будзе разложана на тры раты і прыймацца будуць таксама без налічваньня процантаў за спазьненьне ў працягу 1930, 1931 і 1932 году.

3) Ува ўсіх іншых паветах Віл. ваяв. залеглыя страховыя складкі з раестру 1929 г. будуць прыпісаны без працэнтаў за спазьненьне да раестру 1930 году.

# Карэспандэнцыі.

Круты-Бераг (Нясьв. пав.).

Наша вёска вялікая, бо мае аж каля 200 хатаў; зямлі таксама вялікі ашар займае, бо ёсьць і купленая. Але гэта купленая як і лес, ізноў-жа куплены, знаходзяцца вельмі далёка ад вёскі, будзе вёрстаў каля пяці. Значыць па колькасьці зямлі на гаспадара наша вёска, можна сказаць, багатая. Ну, а як багацей жыхары маюцца, то і жывецца весялей. Ось-жа і наша вёска мела лепшыя дні. Людзі зразумелі і адчулі якую карысьць дае свая родная школа і свой тутэйшы беларускі вучыцель. Але гэты сьветлы луч нядоўга асьвятляў нашае цёмнае жыцьцё. Улада нашу школу перарабіла ў польскую і стала назначаць сваіх вучыцялёў. Нашы ўжо сьвядомыя бацькі не апускалі рук, змагаліся за сваю родную школу: прабавалі арганізаваць прыватную беларускую школу, але ўлада не давала дазволу. Як выйшаў закон аб складаньні школьных дэклярацыяў, наша вёска тут сярод іншых была першая, якая як рой сыпнула дэклярацыі Школьнаму Інспэктару. Ды лёс гэтых дэклярацыяў быў марны, як і ўсюды: беларускай школы нам ня далі і цяпер мы яе ня маем. Штрафамі дзеці змушаны хадзіць у чужую польскую школу, але што за карысьць з яе: дзеці ходзяць па чатыры—пяць гадоў, а пісаць ня ўмеюць. Вычыцялі нібы стараюцца вырабіць прыхільнасьць і да сябе і да школы: закладаюць рожныя „кулкі", млечарні і г. д. Што праўда, знаходзяцца адзінкі сярод моладзі такія, што йдуць за імі, памагаюць ім, але гэта ня тое, што было калісь, калі ўся моладзь была захоплена працай пад кіраўніцтвам вечнай памяці вучыцелькі Ганны. Цяпер наша моладзь з асалодай толькі ўспамінае гэтыя часы. А што-ж мае моладзь замест той захопленай працы? Можна сказаць, што нічога, калі адкінуць праціўную гарэлiцу, якая нішчыць наш дабрабыт ды прычыняе аграмадныя шкоды.

Браты і сёстры! Трэба і нам апамятацца ды паправіць сваё скалечанае жыцьцё, трэба таксама як у іншых вёсках залажыць сваю беларускую культурна-асьветную ўстанову, дзе можна было-б пачуць сваё роднае беларускае слова ды пачытаць газэту ці кніжку. Гэта толькі ад нас залежыць і мы гэта мусім зрабіць.

**З моладзі.**



# Беларускі Месячны Настольны Календар на 1930 год.

**выйшаў з друку і прадаецца ў беларускіх кнігарнях.**

Календар на дванаццаці вялікіх картках зьмяшчае:

1) сьвятцы паводле старага стылю, г. з. праваслаўны календар, друкаваны гражданкаю;

2) сьвятцы паводле новага стылю, г. з. каталіцкі календар, друкаваны лацінікаю;

3) прадсказаньні пагоды на кожны месяц паводлуг календара Бруса;

4) зьмены месяца: ветах, поўня, сход, маладзік;

5) календар гаспадарчых работаў па месяцам, гэта знача, якія работы маюць рабіць гаспадар, гаспадыня і пчаляр у кожны месяц;

6) акром таго, зьмешчаны асобныя артыкулы гаспадарчага зьместу, як напрыклад: аб гадоўлі быдла, аб павялічэньні ўраджаю, аб выкарыстаньні саду і. г.д.

Календар можа служыць ня толькі **настольным, але і насьценным.**

Каштуе ўсяго 50 грош. Перасылка аднаго календара каштуе 20 грош., ад 2 да 4 шт. —30 грош., ад 5 да 9 шт.—55 грош., ад 10 да 18 шт.—65 грош., на заказную перасылку трэба дадаць яшчэ 50 грош. незалежна ад колькасьці штук. Выпісваць можна з цэнтральнага складу: **Вільня, Вострабрамская № 1, Беларуская Кнігарня.**

Згодна з папярэджаньнем, з гэтым 4-м нумарам газэты высылаецца дарма „Беларускі Месячны Настольны Календар" тым падпісчыкам, якія прыслалі падпіску на газ. „Наперад" ня менш, як за паўгода.

# Паштовая скрынка.

**М. Вяршыніну ў Празе (Чэхаславаччына).** Шчыра дзякуем за прывітаньне. Думаем, што, як Вы пішаце, запраўды ніхто і нішто ня здалее скрывіць нашае лініі, правільнасьць якое пацьверджана ўсей гісторыяй нашага адраджэнскага руху.

Парушаную справу паважна абгаварываем і аб выніках павядомім.

**Ул. Гмыру (Палесьсе).** Вітаем Ваш водгук на заклік наш да супрацоўніцтва. Вашы словы, што „беларускія вясковыя масы, узгадваныя „Грамадой", ужо здолеюць адрозніць чорнае ад белага, здолеюць і ацаніць кожнага па яго заслугам", — вельмі нас цешаць. І мы таксама верым, што наша вёска запраўды ўжо выйшла з-пад панаваньня цемры і дэмагогіі, і на гэтым хочам абаперці нашу працу. Няхай-жа зьдзейсьняцца Вашыя словы, што „кожны беларус з здаровым розумам і сумленьнем можа толькі прывітаць выхад у сьвет новае радыкальнае часопісі".

**К—чу ў Беластоку.** Мы вельмі рады, што Вы зусім правільна здолелі зразумець нашу лінію. Сялянска-работніцкая ідэолёгія—гэта адно, а тактыка камуністычнае партыі—гэта другое. І паскольку першая зьяўляецца бясспрэчна правільнай, пастольку другая, падыктаваная з Масквы дыктарам Сталіным, у нашых варунках толькі вядзе да разгрому ўсялякае арганізацыі нашых сялян і работнікаў і выдае іх з галавою ў рукі іх заклятых клясавых ворагаў.

**„Безьзямельніку" (Наваградчына).** Наш нацыянальны сьветапагляд, як і ў пачатку адраджэнскага руху, грунтуецца на шырокіх агульналюдзкіх ідэалах. З гэтага становішча мы ня зыйдзем і не дамо сябе падмануць саўцом нацыянальнае ці рэлігійнае ненавісьці. Для нас назаўсёды астануцца сьвятымі словы Янкі Купалы, што беларусы хочуць перад усім „людзьмі звацца"!



Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.**

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.